Такім чынам лік студэнтаў Літоўцаў у Віленскім Унівэрсытэце значна павялічыцца.

Калі-ж нашы гімназіі дачакаюць свабоднага паступленьня на польскія ўнівэрсытэты?

**— Байкот Віленскага Унівэрсытэту.** Адзін з віленскіх уласьнікаў складу парфумных тавараў п. Вубэ пісьмом у рэдакцыю газ. „Кур'ер Віл." заявіў, што дзьверы яго складу для студэнтаў Віленскага Унівэрсытэту на далей будуць зачынены, г. зн. што ніякай матэрыяльнай помачы Унівэрсытэт і студэнцкія арганізацыі больш ад п. Вубэ не атрымаюць.

Прычынай гэтай характэрнай заявы быў ганебны напад студэнтаў (з катэгорыі панскіх сынкоў) на рабочую маніфэстацыю ў Вільні 1-га мая г. г. Як ведама, *ні ўнівэрсытэцкае начальства (сэнат), ні само студэнства польскае на гэты дзікі напад не зарэагавала.* Тое самое можна сказаць і аб польскай прэсе. Няма дзіва, што абурэньне чэснага чалавека павінна было выліцца ў нейкай форме. Трэба толькі жалець, што п. Вубэ не таргуе чым патрабнейшым ад парфум напр. хлебам ці цукрам.

Можа-б тады, пры большым ліку паноў Вубаў, прагаладаўшыя студэнты заместа біць галодных і безработных маніфэстантаў, самі-бы да іх прылучыліся.

**— 1300 безработных бяз хлеба.** Галоўны Урад Фонду Безрабоцьця ад 1-га ліпня г. г. мае спыніць выплату дапамог безработным. У адной Вільні, такім парадкам, астанецца без кавалка хлеба 1300 душ.

**— Дапамогі безработным.** У працягу прошлага тыдня Акружны Урад Фонду Безрабоцьця выплаціў безработным 3585 зл. дапамогі паводле ўставы і 8588 зл. як дапамогі аднаразовыя. Карыстае з гэтых сум 1334 безработных.

**— Курс на грошы.** У Варшаве афіцыяльны курс на 18.VI. лічыўся 10 зл. 00 гр. за даляр. Рублі золатам—5.40, сярабром—3.30.

На чорнай гелдзе ў Вільні 18 чэрвеня плацілі за даляр 10 зл 20 гр.

# КУЛЬТУРНАЯ ПРАЦА НА ВЁСЦЫ.

(Вёска Дунайчыцы, Нясьвежскага павету).

(Працяг).

Работа нашых гаротнікаў не прапала на марна, а пашла ўперад. Добра зарганізавалі Пажарную Каманду, здабылі патрэбныя дзеля пажарнікаў рэчы, за грошы ад вечарын, якія пачалі гуляць надта часта, зрабілі павозку пад помпу, дзьве бочкі, здабылі болей крукоў і сякераў, драбінак дый шмат іншых прыладаў. Купілі ўсім пажарнікам шапкі, якіх ёсьць 58 асоб і цяпер ня сорам сказаць, што ёсьць Пажарная Каманда. Але як я ўжо вышэй сказаў, што гулялі вечарыны — так часта, што нават трудна прыпомніць усіх тых твораў, якія давялося мне ў роднай вёсцы і на роднай мове пачуць і пабачыць. Гулялі і драмы і камэдыі і інш. сцэнічныя абразкі, дзеля прыкладу прывяду, якія ўспомню: „Пільнуй свае хаты", „Па рэвізіі", „Мікітаў лапаць", „Пасланец", „Зьбянтэжаны Саўка", „На вёсцы", „Птушка шчасьця", „Дзядзька Якуб", „Карчма" і шмат іншых.

Дык вось і цяпер на другі дзень Вялікадня, каб правясьці сьвяткі вясялей наладзілі нашы сяляне аматары ізноў вечарыну-спэктакль. На гэты раз згулялі камэдыю Ф. Аляхновіча „Пан Міністар" і былі прадэклямаваны Х. Шыбутам, адпаведныя да сьвята і да нашага жыцьця, вершы Я. Купалы з зборніка „Шляхам жыцьця", як напр.: „Вялікадзень", „Хрыстос Уваскрос", „Наша вёска".

Цяпер скажу падрабязьней пра самае гуляньне пьескі „Пан Міністар".

Роль Ф. Пупкіна гуляў Х. Шыбут, правёў надта ўмела і надта добра, роль М. Сьвятляка згуляў Я. Корбут, надта да спадобу, яны-ж былі і галоўныя ініцыятары вечарыны. Наступныя ролі гулялі так: Кукіша—А. Адарыч, Скакуна—Я. Дзямідчык, Марту — О. Адарыч, Любу — З. Шалоха; правялі ролі надта добра, прысутныя былі здаволеныя і калі даведаліся, што ў хуткім часе, бо на 6 траўня будзе другі спэктакль, дык прышлі ня толькі самі, а запрасілі з сабою і ўсіх сваіх гасьцёў з іншых вёсак, бо ў гэты дзень якраз прыпадаў фэст у нашай вёсцы „Юр'я", дый апрача таго шмат прыбыло маладзяжы з рожных акалічных вёсак спэцыяльна на спэктакль — бо ўжо ўсе вёскі добра ведаюць, што калі пойдуць у Дунайчыцы на спэктакль, дык не пашкадуюць. І ня гледзячы на дрэнную пагоду, прысутных было поўна, нават адчуваўся брак мясцоў, бяручы пад увагу, што ў нашым тэатры можа зьмясьціцца каля 500 асоб. На гэты раз была згуляна драма К. Стэповіча „Янка Канцавы" і камэдыя Я. Купалы „Прымакі". Гулялі надта добра і не магу ўстрымацца, каб ня выказаць тае радасьці і тае прыемнасьці, якую атрымаў, будучы на вечары, а дзеля праўдзівасьці ўсяго вышэй сказанага, хачу выразіць падзяку аматарам сялянам, пазываючы кожнага па прозьвішчу і з пеказаньнем гулянае ролі.

Ролі былі разабраны вельмі ўдала і правялі ўсё на дзіва. Роль Янкі згуляў Х. Шыбут, мацяры—С. Чапля, Карусі—З. Шалоха, Язэпка—Г. Шыбут, Франука—Я. Касьцюкевіч, Язэпа—А. Адарыч, Юрася—Е. Адарыч, Бэркі—Я. Дзямідчык, Міхасіхі—М. Чапля, Разалькі—О. Адарыч. У II гім акцэ вясковаю моладзьдзю на вечарынцы былі наступныя асобы: Я. Шыбут, П. Шыбут, Н. Кірык, Н. Шыбут, К. Шыбут, Т. Шыбут, З. Шыбут. У „Прымаках", ролі былі згуляны гэткімі асобамі: М. Кутаса гуляў А. Адарыч, Паланею—О. Адарыч, Мацейку—Х. Шыбут, Т. Сініцу—Я. Шыбут, Дамідэлю—М. Чапля, Кацярынку—З. Шалоха, Вураднікa—Я. Ганчарык, Соцкага—Я. Кірык, а ролі сялян і сялянак гулялі тыя самыя асобы, якія былі моладзьдзю ў драмі „Янка Канцавы", яны-ж выканалі і ўсе патрэбныя сьпевы ў кожнай пьесцы.

Прысутныя былі вельмі здаволяны і шчыра дзякавалі нашым аматарам сялянам. Увесь даход ад вечарын паступіў на карысьць нашай Пажарнай Каманды. Дык вось здавалася-б усё добра, што ўсе зразумелі і паняалі і ацанілі цяжкую працу нашых паважаных п. п. Я. Корбута і Х. Шыбута, але, як кажуць, сям'я не бяз вырадка, так і тут, знайшоўся нейкі адшчапенец, якому не на руку ўся гэта работа, бо хлопцы за апошні час пакінулі ўжо піць гарэлку, пакінулі біць адзін аднаму галавы, а пачалі прыглядацца да працы паважнае, бо было, як вышэй сказана, толькі двух, але цяпер, апрача пажарнікоў, якія надта прыхільна адносяцца да гэнае працы. на карысьць агульную, мы маем ужо і 20 асобаў аматараў, дык сямейка ўжо, дзякаваць Богу, не маленькая, сілы нашы прыбываюць з кожным днём. Атрымоўліваем некалькі нумароў свае роднае і паважанае газэты „Сялянская Ніва", бо яна зьяўляецца рулём нашага органу Сялянскага Саюзу, які падзеляе нашу сялянскую ідэолёгію і пад сьцягам якога нам трэба гуртавацца.

Дык цяпер як ёсьць наш Сял. Саюз, на чале якога стаяць пав. паслы Рагуля і Ярэміч—спазнаўшыя нашу адсталасьць і патрэбу арганізаваньня, мы павінны станавіцца пад сьцягам нашага Беларускага Сялянскага Сяюзу, бо ён адзіны бароніць нашы сялянскія інтарэсы і вядзе нас да лепшае будучыні. Памятайма, што ад нас саміх залежыць наш лёс і наша будучыня. *Селянін.*

# Пісьмы з вёскі.

## Казённыя сьвяты і няшчырыя прамовы — мала каго цікавяць.

М-ка **Жодзішкі**, Вілейскага павету.

Таксама як і прошлыя гады, так і сёлета гмінная адміністрацыя і вучыцельства польскае ладзілі абход 3-га мая. Выйшаўшы з касьцёла перайшлі праз мястэчка, але йшлі блізу толькі адны школьныя дзеці пад кіраўніцтвам сваіх вучыцялёў. Як толькі прыблізіліся да палацу (стары гмах паезуіцкі), увайшло больш людзей, бо мелася там быць прадстаўленьне дзяцей школьных, дык гэтым зацікавіліся. Ну, а я зацікавіўся тым, што скажа прамоўца, бо-ж без прамовы 3-ці май не абходзіцца, дык і я пайшоў. Вось выйшаў п. Г. з прамовай і што-ж ён сказаў? Мінаючы тоя, што казаў пра Канстытуцыю, я хачу ўспомніць, што датыча асабліва нас. Дык вот гаварыў ён, што, хоць каторы ўжо год абходзіцца сьвята 3-га мая, аднак народ да гэтага ня прылучаецца; кажуць, што па другіх краёх, дзе ёсьць люднасьць не адналітая, так як і ў нас, аднак адносіцца ляяльна да дзяржавы, а я віджу тут мала сабраўшыхся, а і ў гэтых ня відаць патрыятызму; дамы ня ёсьць прыбраныя ў коляры народныя і г. д. і хоць прамоўца перш сказаў, што ў нас люднасьць ёсьць не адналітая, а сапраўдныя палякі і тыя, што ўважаюць сябе за палякоў знаходзяцца ў абсалютнай меншасьці, аднак гаварыў так, якбы нятолькі прысутныя, але і ўсе ў нас былі палякамі.

І як тут можна вымагаць ад нас беларусаў польскага патрыятызму? Як-жа можа беларус, каторы добра ведае хто ён, пяяць: „польскі мы наруд, польскі люд, крулевскі шчэп Пястовы?".

Можа прамоўца і ня мог іначай гаварыць і прызнацца, што тутака беларусы, аднак слухаць было гэтых слоў і сьмешна і праціўна, што ня так гаворыцца як ёсьць, а як прыказана з гары.

*А. Сталюк.*

# ПІСЬМЫ Ў РЭДАКЦЫЮ.

*Грамадзянін Рэдактар!*

Не адмоўце ў „Сялянскай Ніве" зьмясьціць ніжэй пададзенае:

„Бел. Справа" (9.VI.1926. № 15) з прычыны стацьці ў „Пшэглёндзе Віленьскім" (30.V.1926. № 10): „О рувнэ трактоване", падпісанай псэўдонімам: „Былы прэфэкт I гімназ'юм Бялорускего в Вільне", між іншым піша, што беларускія буржуазныя групы, кіраваныя ксяндзамі, астатнім часам павялі атаку проціў беларускіх культурных установ і што прадусім гэтым займаецца "былы прэфэкт", да ліку якіх чамусьці залічаны і я.

Вось-жа лічу сваім абавязкам сьцьвердзіць

1) Мне няведама, каб агулам сярод беларусаў была беларуская *буржуазная* група, кіраваная ксяндзамі і вядучая атаку проціў беларускіх культурных установ.

2) Мяне асабіста ніяк ня можна залічыць да „былых прэфэктув", бо я зьяўляюся прэфэктам *сучасным*.

3) Як першае, так і другое дужа добра ведамае „Бел. Справе". Дык і гэныя безпадстаўныя і нязгодныя з праўдай увагі, дужа добра сьведчаць аб пачуцьці „этыкі і праўды" аўтара іх.

З пашанай *Кс. А. Станкевіч.*

Вільня, 15.VI. 1926.

*Паважаны Пане Рэдактар!*

Прашу ласкава зьмясьціць у Вашай паважанай часопісі ніжэй пададзенае.

У віленскіх польскіх газэтах „Слово" і „Кур'ер Віленьскі" ад 13 гэтага месяца зьявілася заметка, у якой, між іншым, гаворыцца, быццам я меў якуюсь-то нараду з панам Паўлюкевічам. Аб гэтым я заяўляю, што з п. Паўлюкевічам я ня бачыўся і ніякіх нарад ня меў, а так-жа гутарыць аб беларускіх справах з гэтым панам ня зьбіраюся, бо ня лічу яго беларускім дзеячом і праваднікам якой-кольвечы беларускай думкі.

З глыбокай пашанай да Вас

*Яз. Мамонька.*

Вільня, 14.VI.1926.

# Наша пошта.

**Грамадзяніну з Гайноўкі.** Надрукаваць ня можам. Стацьця Ваша лішне расцягнена і заблутана так, што сэнс найсьці трудна. Радзім Вам больш чытаць, а калі пішыце, старайцеся рабіць гэта ясна, коратка і ня ўжывайце слоў, якія ніколі не істнавалі і ня істнуюць. За добрыя пажаданьні шчыра дзякуем.

Гр. **С. Кату**. Просьбу спаўняем. Блянкетаў жаданых Адміністрацыя ня высылае. Шліце грошы пераводам.

Гр. **Ігнату Лабачу ў Амэрыцэ.** Успомненыя Вамі асобы адносяцца да нас прыхільна; Сялянскі Саюз прымае ў сябры па атрыманьні заявы і ўнясеньні грошаў. Падрабязна прачытаеце ў друкаваным нядаўна Статуце. Пішыце, калі ласка, аб жыцьці амэрыканскіх беларусаў.

Гр. **Гарбочыку Пятру.** Усе беларускія кніжкі і пісьменныя прылады знойдзіце ў беларускіх кнігарнях у Вільні (напр. Завальная 7), праўныя кніжкі і блянкеты можна найсьці ў польскіх большых кнігарнях (Завадзкі, Стов. Науч. Польскего і інш.), або ў кнігарні Сыркіна.

Гр. **П. Субацею.** Газэта Вам высылаецца бяз перарыву.

Гр. **Ігнату Кукіянёнку.** Газету будзем высылаць.

**Атрымана:**

Ад: Чэбатара Васіля 8 зл., М. Зёнтака 6 зл., Грыцкевіча А. 5 зл., Канст. Юхневіча 3 зл., А. Мартаса 1 зл.

Ад: Я. Токця, Сямёна Паляка, Эл. Кашкевіча, Пятра Андрэйчука, Янкі Цупіка, Алякс. Пяткевіча, Я. Бацяна і Янкі Лешчэвіча **— па 2 зл.**

# АБВЕСТКА.

## Клецкая Беларуская Гімназія,

прыродна-матэматычнага тыпу, з прыгатаваўчай клясай, даводзіць да ведама беларускага грамадзянства, што прыймовыя экзамены ў гімназіі ў канцы гэтага школьнага году, адбудуцца ў наступныя тэрміны:

У I-ую клясу—21, 22 і 23 чэрвеня.

У II, III, IV, V, VI і VII клясы — 23, 24, 25 і 26 чэрвеня.

Заявы аб дапушчэньні дзяцей да экзаменаў, а роўна і аб залічэньні дзяцей малодшых узростаў у пыгатаваўчую клясу, падаюць іх бацькі, або апякуны. Да заявы трэба далучыць:

1. Мэтрыку аб нараджэньні вучня;
2. Пасьведчаньне дохтара аб прышчэпе воспы;
3. Дакумант аб папярэдняй адукацыі
і 4. Фотографічную картку.

Калі-ж кандыдату (кандыдатцы) мінула 14 гадоў, і ён апошняе паўгодзе ні ў якой школе ня вучыўся, дык трэба яшчэ прадставіць пасьведчаньне маральнасьці, якое можа быць атрымана ад сьвяшчэніка ці ксяндза, гміннага ўраду, старастава або паліцыі.

Вучні старэйшых аддзелаў польскіх пачатковых школ прымаюцца ў адпаведныя малодшыя клясы гімназіі бяз экзаменаў: IV аддзел прыраўноўваецца да I ай клясы; скончыўшыя аднак VII аддзелаў могуць быць прыняты бяз экзаменаў толькі ў IV клясу гімназіі.

**Дырэкцыя.**

Рэдактар і выдавец **Ст. Вольскі.** **Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.**